

Газета заснавана ў 1938 годзе. Адноўлена ў 1997 годзе.

МАСАВА-ПАЛІТЫЧНЫ ШТОТЫДНЁВІК

# Газета Слонімская

№46 (284) 14 — 20 лістапада 2002г. Наклад 11.800 экз. Кошт 320 руб.

«ГАЗЕТУ СЛОНІМСКУЮ» ЧЫТАЮЦЬ
Слонім,
Зэльва,
Дзятлава,
Масты,
Ваўкавыск,
Шчучын,
Ліда,
Гродна,
Баранавічы,
іншыя гарады Беларусі,
а таксама на HTTP://gs.promedia.by

ВЁСКА

# АДСВЯТКАВАЛІ Ў ПОЛІ




На ільняным полі калгаса "Рассвет" 7 лістапада. На пярэднім плане калгасная пенсіянерка Крупко Ганна Георгіеўна.

**Матэрыял чытайце на 4 стар.**

СОЦИУМ

## ЧИСЛО БЕЗРАБОТНЫХ РАСТЕТ

**По сравнению с прошлым годом, согласно данным Слонимского районного центра занятости на 1 ноября, количество безработных в Слониме и районе увеличилось на 140 человек (сейчас на учете состоит 1028 человек). Для сравнения: за девять месяцев текущего года в Минске зарегистрировано 19.268 безработных, рост безработицы в столице превысил 20 процентов.**

"Я никуда не поступила после школы, — рассказывает корреспонденту "ГС" Наталья С., — и так как дома не хочется просто сидеть, сложа руки, решила стать на учет в Слонимский центр занятости. Здесь мне предложили выучиться на повара. Это все же лучше, чем слоняться без дела".

По словам главного специалиста рынка труда Слонимского районного центра занятости Раисы Лобович, структура зарегистрированной безработицы остается неизменной: высвобожденные работники с предприятий, организаций и учреждений города, главным образом, бывшие работники Слонимской камвольно-прядильной фабрики, молодежь в возрасте от 16 до 29 лет и работники, уволенные по собственному желанию. Основным источником увеличения числа безработных на сегодняшний день являются уволенные по собственному желанию и молодежь.

Заявленная предприятиями в центр занятости общая потребность в работниках составила 73 человека. На сегодняшний день вакансии на работу есть у Слонимской МПМК, гостиничной мебели, индивидуального предпринимателя Романа Гиля, фабрики художественных изделий, сельхозхимии и т.д. Наиболее высоким спросом пользуются следующие специальности: каменщик, бухгалтер, продавец, электрик.

"В сложившихся условиях главная задача центра занятости состоит в том, чтобы не допускать длительной безработицы, обеспечить предоставление гражданам социальных гарантий, предусмотренных государством", — сказала Раиса Лобович.

По прогнозам специалистов центра занятости, количество безработных будет расти и дальше за счет увеличения высвобожденных работников местных предприятий.

**Ольга ШИНКЕВИЧ**

НАША ЭКАНОМІКА

# КАБ МАЛАКО НЕ КІСЛА

**Апошнім часам жыхары Слоніма пры набыцці малака і іншых малочных прадуктаў аддаюць перавагу прадукцыі ваўкавыскага "Беллакта" ці прадпрыемствам Гродна і Брэста.**

І як адзначаюць самі пакупнікі, выбар яны робяць асэнсавана. Пры амаль аднолькавых рознічных цэнах якасць прывазных малочных прадуктаў, па іх меркаванню, лепшая за падобную прадукцыю Слонімскага завода сухога абястлушчанага малака.

Узнікае пытанне: няўжо слонімскія спецыялісты горшыя за ваўкавыскіх ці брэсцкіх?

Дырэктар мясцовага малаказавода Міхаіл Дмухоўскі сказаў наступнае: " З кожным днём якасць малочнай прадукцыі, якую выпускае наш завод сухога абястлушчанага малака, паляпшаецца. У апошні час стала больш якасным і малако, якое прывозяць з малочна-таварных фермаў на завод. Праўда, некаторыя гаспадаркі, у прыватнасці калгасы "Чырвоная зорка", "Уперад" і іншыя, часта прывозяць і кіслае малако. Прычынай таму з'яўляецца няспраўнасць халадзільных установак. Іх абслугоўвае Слонімская райаграпрамтэхніка. Дарэчы, мы нават гаспадаркам пералічваем грошы на рамонт гэтых халадзільных установак. Найгоршай якасці малако здаюць людзі з прыватных падвор'яў, яно часта бывае кіслым і адпавядае другому гатунку, а таксама не ахаладжваецца...".



*Так у беларускіх вёсках збіраюць малако ў насельніцтва*

Фота IREX/ProMedia

Сапраўды, перш чым малако трапіць на перапрацоўку на завод, яно павінна пэўны час зберагацца на фермах у халадзільных установках. Без такіх халадзільных установак малочна-таварныя фермы практычна існаваць не могуць.

"Іншая справа, што многія ўстаноўкі даўно састарэлі, асабліва тыя, якія выпускаюцца ў Слонімскай райаграпрамтэхніцы. Гэтыя ўстаноўкі не адпавядаюць сучасным патрабаванням і часта псуюцца. Значна лепшыя і даволі сучасныя халадзільнікі выпускаюць у Брэсце, а таксама ў Польшчы. У іх можна змешваць некалькі ўдояў, прытым не губляецца якасць малака ", — паведамілі карэспандэнту "ГС" па тэлефоне ў аддзеле сыравіны ваўкавыскага прадпрыемства "Беллакт".

Падобныя халадзільныя машыны МВТ-3,2 з мяшалкаю вады, з французскім халадзільным агрэгатам і нямецкім тэрмавентылем і медным выпаральнікам вырабляе слонімскі індывідуальны прадпрымальнік Яўген Лажэчнікаў.

"Для выпуску халадзільных машын нашы спецыялісты выкарыстоўваюць французскія агрэгаты, райаграпрамтэхніка — яраслаўскія кампрэсары, мы робім выпаральнікі з медзі, яны — са сталі і г.д. Як бачыце, мы выкарыстоўваем больш сучасныя камплектуючыя дэталі. Магчыма, райаграпрамтэхніка не можа сабе гэта дазволіць з-за недахопаў фінансаў ", — сказаў Яўген Лажэчнікаў.

У сваю чаргу дырэктар Слонімскай райаграпрамтэхнікі Мікалай Астапковіч пракаменціраваў сітуацыю наступным чынам:

— Брэсцкія халадзільныя ўстаноўкі для малочнатаварных ферм каштуюць 14 тысяч даляраў. Хаця мы на заказ можам вырабляць і за 14, і за 40 тысяч даляраў. Іншая справа, што цэны на нашы ўстаноўкі рэгулюе Міністэрства сельскай гаспадаркі. І мы вымушаны вырабляць такія, якія на сённяшні дзень могуць у нас купіць сельгасгаспадаркі, менавіта, па дзве тысячы даляраў. І то, нават пры такіх нізкіх цэнах, запазычанасць арганізацый нашай райаграпрамтэхніцы складае каля аднаго мільярда рублёў. З-за гэтай запазычанасці мы не можам своечасова сваім рабочым выплочваць заработную плату, не кажучы пра выраб сучасных халадзільных установак, — сказаў Мікалай Астапковіч.

Дырэктара райаграпрамтэхнікі можна зразумець. Існуе ў нагу з часам і рынычнымі адносінамі сёння вельмі цяжка, асабліва тым прадпрыемствам, якія знаходзяцца ў руках аднаго манапаліста-банкрута — дзяржавы.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

ЗДАРЭННІ

### ДЗВЕ СМЕРЦІ

**10 лістапада ў слонімскі морг паступіў труп мужчыны, у якога пры ўскрыцці былі выяўлены нажавыя раненні.**

А 11 лістапада жыхар Ружанскай вуліцы быў знойдзены ў сябе дома з агнястрэльным раненнем, якое аказалася смяротным.

Як паведамілі ў Слонімскай райпракуратуры, па факту гэтых дзвюх смярцей праводзіцца праверка.

### УКРАЛІ ДРОВЫ

**3 дзялянкі Дзераўноўскага лясніцтва Слонімскага раёна на мінулым тыдні невядомыя вывезлі, прыкладна, 30 кубаметраў дроў.**

Дровы заставаліся пасля распрацоўкі на дзялянцы дзелавой драўніны.

Цяпер міліцыя шукае аматараў бясплатна пагрэцца.

### КАМУ ПАТРЭБЕН ТАКСАФОН?

**5 лістапада са сцяны дома №75 па Брэсцкай вуліцы ў Слоніме невядомыя злодзеі знялі таксафон.**

Каму спатрэбіўся такі незвычайны тэлефонны апарат, належыць высветліць работнікам праваахоўных органаў.

### ВАЙНА З АЎТАМАБІЛЯМІ

**На мінулым тыдні ў вёсцы Жыровічы на стаянцы каля сельскагаспадарчага каледжа невядомыя хуліганы пашкодзілі шкло ў легкавым аўтамабілі.**

А днём раней у Слоніме на стаянцы каля жаночай кансультацыі, што на вуліцы Брэсцкай, хуліганы нанеслі адной з аўтамашын аналагічную шкоду.

Па гэтых фактах вядзецца расследаванне.

### ПАНЕСЛІ ДЗВЕРЫ

**8 лістапада з будаўнічай пляцоўкі дома на вуліцы Талстога ў Слоніме невядомыя ўкралі два камплекты дзвярэй.**

Праводзіцца праверка.

### УГОНШЧЫК УЦЁК

**У ноч на 11 лістапада ў аднаго са слонімскіх аўтаўладальнікаў быў угнаны аўтамабіль "Жыгулі".**

Аўтамашыну міліцыянеры знайшлі на вуліцы імя Чкалава. А вось угоншчыка па гарачых слядах затрымаць не ўдалося, і цяпер вядуцца яго пошукі.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

## КУРСЫ ОБМЕНА ВАЛЮТ

в г. Слониме по состоянию на 10[00] 12.11.2002г.

| "Беларусбанк" | | |
|---|---|---|
| | Покупка | Продажа |
| 1 USD | 1895 | 1925 |
| 1 EURO | 1860 | 1935 |
| 1 ZL | 445 | 480 |
| 1 RUR | 57 | 60 |
| оао "Белпромстройбанк" | | |
| | Покупка | Продажа |
| 1 USD | 1900 | 1920 |
| 1 EURO | 1870 | 1930 |
| 1 ZL | 465 | 495 |
| 1 RUR | 58 | 60 |
| "Белагропромбанк" | | |
| | Покупка | Продажа |
| 1 USD | 1900 | 1925 |
| 1 EURO | 1850 | 1900 |
| 1 RUR | 57 | 60 |
| Нацбанк РБ | | |
| 1 USD | 1888 | |
| 1 EURO | 1914,62 | |
| 1 RUR | 59,42 | |



ЗДАРЭННЕ

## АПАГАНІЛІ СЛОНІМСКУЮ МЯЧЭЦЬ



Фота Віталя ГІЛЯ

**У суботу, 9 лістапада, невядомыя асобы апаганілі Слонімскую мячэць.**

На адной са сцен будынка яны напісалі чорнаю фарбаю тэкст "Время — убивать", намалявалі фашысцкую свастыку і невядомы знак.

Мусульманская абшчына па дадзенаму факту звярнулася з заявою ў міліцыю. Вядзецца праверка.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

СТАТЫСТЫКА

### БЕСПРАЦОЎНЫХ УСЁ БОЛЬШ

**За 9 месяцаў 2002 года ў Слонімскай раённай службе занятасці насельніцтва было зарэгістравана 998 беспрацоўных. Гэта на 14,7% больш за мінулагодня лічбы (па стану на 1 кастрычніка 2001 года).**

Але ў параўнанні з вераснем 2002 года, колькасць беспрацоўных скарацілася на 4,2%.

652 беспрацоўныя атрымлівалі ў верасні дапамогу, сярэдні памер якой склаў 14 660 рублёў. Усяго на выплату дапамогі выдаткавана 9 мільёнаў 558 тысяч 100 рублёў.

Насцярожвае той факт, што за студзень – верасень бягучага года з прадпрыемстваў і арганізацый Слонімскага раёна звольнена 6 099 чалавек. На іх месцы прыняты на працу 5 541 чалавек.

### ДЗЕ 100 ДАЛЯРАЎ?

**Давесці зарплату да 100 даляраў у Слонімскім раёне не атрымліваецца.**

У сельскай гаспадарцы раёна сярэднемесячны заробак за 9 месяцаў 2002 года склаў 106 тысяч 400 рублёў, у работнікаў культуры — 141 тысяча рублёў, у сферы адукацыі — 151 400 рублёў.

У цэлым па народнай гаспадарцы раёна налічаная сярэднемесячная зарплата за студзень-верасень бягучага года склала 147 тысяч 500 рублёў.

### ПАКРЫХУ ПАМІРАЕМ

**На 461 нованароджанага, зарэгістраванага ў Слонімскім раёне за студзень-жнівень 2002 года, прыходзіцца 772 памерлых.**

З пачатку года ў горадзе нарадзілася 357 і памерла 405 чалавек. На вёсцы памерла 367 чалавек, а нарадзілася толькі сто чатыры чалавекі.

Такім чынам, па дадзеных Слонімскага раённага аддзела статыстыкі, у раёне памерла на 311 чалавек больш, чым нарадзілася.

Валерый КАВАЛЕНКА

ЗДАРЭННІ

### ВЫРАТАВАЦЬ ЮНАКА НЕ ЎДАЛОСЯ

**У пазамінулым нумары "ГС" мы пісалі пра тое, як вадзіцель грузавой аўтамашыны ГАЗ-53 збіў тэхніка са Слонімскай 11-ай механізаванай брыгады Андрэя Крыловіча.**

Як паведамілі нашаму карэспандэнту ў Слонімскім аддзяленні ДАІ, выратаваць жыццё 22-гадоваму юнаку дактарам не ўдалося, ад атрыманых ран ён памёр у шпіталі.

Сяргей ЧЫГРЫН

### СПАСЛИ ДОМ

**В понедельник, 11 ноября, в деревне Ходевичи Слонимского района на Луговой улице горел жилой дом.**

Пожар начался с пристройки, где хранились дрова, и затем огонь перебросился на чердак дома.

Причина пожара и нанесенный ущерб устанавливаются.

Все имущество и постройка спасены.

Ольга ШИНКЕВИЧ

### ЗНІК ВЕЛАСІПЕД

**Са склада інтэрната №1 на Брэсцкай вуліцы ў Слоніме знік дзіцячы веласіпед замежнай вытворчасці.**

Міліцыя шукае злодзея.

Мікола КАНАНОВІЧ

СВЯТА

# ВОСЕНЬСКІ КІРМАШ НА ПЕРШАМАЙСКАЙ


Фота Віталя ГІЛЯ

*Песнямі цешылі кірмаш*

**9 лістапада на Першамайскай вуліцы ў Слоніме адбыўся восеньскі кірмаш.**

Як не крыўдна, але з кожным годам гэты кірмаш у нашым горадзе становіцца бяднейшым на асартымент і даражэйшым на сельгаспрадукцыю.

Многіх пакупнікоў цэны проста палохалі. Напрыклад, кілаграм бульбы гатунку "Дэльфін" і "Дзіна" на кірмашы каштаваў аж 605 рублёў. Праўда, бульбу "Сузор'е" коштам 396 рублёў за адзін кілаграм людзі раскупілі хутка.

Найбольш пакупнікоў было каля машын з калгаса "Перамога", дзе прадавалі мясныя вырабы, а таксама каля ўнітарнага сельгаспрадпрыемства "Сасноўка", якое гандлявала збожжам. Вяскоўцы і гараджане куплялі тут пярловую крупу па 350 рублёў за кілаграм, ячмень — па 115 рублёў і пшаніцу — па 150 рублёў.

А яшчэ на восеньскім кірмашы гандлявалі жывою рыбаю, парсючкамі, ільняным семем, капустаю. Вядома, не абышлося і без піва, шашлыкоў, гарэлкі. А каб гандляры і пакупнікі не сумавалі — для іх гучалі песні ў выкананні мясцовых артыстаў.

Сяргей ЧЫГРЫН


Фота Віталя ГІЛЯ

*Можа і хопіць бульбачкі на зіму*

ЧУТКА

### КАМВОЛЬНА-ПРАДЗІЛЬНУЮ ФАБРЫКУ — ПАД РЫНАК?

**У рэдакцыю нашай газеты званяць чытачы і пытаюцца: ці праўда, што Слонімскую камвольна-прадзільную фабрыку плануюць пераабсталяваць пад мясцовы крыты рынак, дзе будуць прадавацца садавіна, агародніна, мясныя вырабы і іншыя прадукты харчавання?**

Карэспандэнт "ГС" гэтае пытанне адрасаваў начальніку ўпраўлення эканомікі Слонімскага райвыканкама Васілю Лабовічу. Васіль Мікалаевіч сказаў, што гэта толькі чуткі, бо на ўзроўні райвыканкама такое пытанне не разглядалася. Што ж, пажывем — пабачым.

Сяргей ЧЫГРЫН

НАВІНА

### КВЕТКІ — ЛЕНІНУ

**7 лістапада да помніка У.І.Леніна ў Слоніме прыйшлі каля трыццаці чалавек.**

Яны ўсклалі кветкі і аддалі даніну пашаны "вождю мирового пролетариата".

Сярод прысутных былі не толькі камуністы, але і беспартыйныя.

Віктар ГЕРАСІМЧЫК

ПРАВЕРКА

### У ФОНД АХОВЫ ПРЫРОДЫ НЕ ДАЛІЧЫЛІ 4 МІЛЬЁНЫ РУБЛЁЎ

**Камітэтам дзяржкантролю па Гродзенскай вобласці была праведзена праверка мэтавага выкарыстання бюджэтных сродкаў, якія выдзяляюцца на прыродаахоўныя мерапрыемствы.**

У выніку праверкі Слонімскай гаррайінспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы акаляючага асяроддзя, былі выяўлены недахопы сродкаў для правядзення прыродаахоўных мерапрыемстваў на Слонімшчыне. І менавіта па віне работнікаў інспекцыі, як паведамляе прэс-служба дзяржкантролю, у фонд аховы прыроды не залічылі плату за карыстанне банкам грашовых сродкаў фонда — больш за 4 мільёны рублёў.

Дзяржкантроль адзначыў таксама, што з боку Слонімскай гаррайінспекцыі не прымаюцца патрэбныя меры па завяршэнню будаўніцтва палігона цвёрдых бытавых адыходаў — звалкі ў раёне вёскі Чамяры.

Мікола КАНАНОВІЧ

ДОБРО ПОЖАЛОВАТЬСЯ

# ПЕНСИОНЕРКА МЕШАЕТ БЛАГОУСТРОЙСТВУ ГОРОДА, "ЗАХВАТИВ" ЗЕМЛЮ

**В любом конфликте, как известно, есть, как минимум, две противоборствующие стороны. И у каждой из них – своя правда и свое мнение на происходящее.**

Итак, сегодня в рубрике "Добро пожаловаться" с одной стороны выступает 78-летняя слонимчанка Зинаида Андреевна Борисик, ну, а по другую сторону находится главный архитектор Слонимского райисполкома Евгений Федорович Белевич.

Зинаида Андреевна живет в многоквартирном доме по ул. Школьной, 3, который расположен недалеко от городского рынка и возле магазина "Промтовары". Еще после войны, как утверждает женщина, возле дома построили забор. А вот два года назад, по словам Зинаиды Андреевны, жители дома №3 по Школьной улице его благоустроили и поставили железные ворота. "И это все делалось по проекту, который утвердил бывший главный архитектор города Владимир Козырнович, — говорит Зинаида Борисик, — и мы ни капли не отступили от него".

А недавно "в гости" к Зинаиде Андреевне пришел нынешний главный архитектор района Евгений Белевич, который, по словам женщины, некорректно "попросил" перенести забор с железными воротами подальше от тротуара. "Он кричал, что это я виновата в том, что забор находится слишком близко к тротуару, — сказала Зинаида Борисик, — еще и угрожал, что из пенсии у меня будут высчитывать деньги за этот перенос. Я предложила их ведомству самим заняться переносом забора, но Белевич отказался".

У Евгения Федоровича свое мнение по поводу этого конфликта. "Это самовольный захват земли, — заявил главный районный архитектор. — Если Борисик не выполнит моих требований, на нее наложат штраф в размере 40 минимальных заработных плат". И, по словам Евгения Федоровича, соседи сказали, что они не участвовали в постройке забора, а тем более, в установке железных ворот.

Вот и получается, что виноватой оказалась 78-летняя Зинаида Андреевна и из ее пенсии, в случае отказа выполнять требования Белевича, высчитают 40 минимальных заработных плат. "А еще сын Зинаиды Борисик давно получил разрешение на постройку гаража в огороде, так я это решение могу отменить!" — заявил Евгений Белевич.

Победит в этом конфликте, естественно, сильнейший. И, думаю, что 78-летней Зинаиде Андреевне трудно будет противостоять благоустройству города.

Ольга ШИНКЕВИЧ

# АДСВЯТКАВАЛІ Ў ПОЛІ

(Працяг. Пачатак на 1 стар.)

### У ПРАЎЛЕННІ КАЛГАСА

Старшыню калгаса Васіля Серага і інжынера Віктара Пузыновіча карэспандэнты "ГС" засталі ў калгаснай канторы ў вёсцы Вострава, дзе і адбылася першая гутарка пра жыццё ў гэтай гаспадарцы. А на пытанне, ці з'яўляецца для вас 7 лістапада святочным днём, Васіль Серы адказаў, што на такіх святах выхоўвалася іх пакаленне.

Старшыня расказаў, што калгас своечасова плоціць падаткі, разлічваецца за электраэнергію, а вось з гаспадаркай за здадзеную прадукцыю разлічыцца не спяшаюцца. Так ільнозавод за лён не пералічыў 16 мільёнаў рублёў, за здадзенае дзяржаве збожжа на калгасны рахунак да гэтай пары не паступілі 12 мільёнаў рублёў, не разлічваюцца своечасова за здадзенае малако і мяса малаказавод і мясакамбінат. У такой сітуацыі старшыня не можа своечасова разлічыцца з калгаснікамі па заробку. Толькі нядаўна ўдалося закрыць запазычанасць па зарплаце за ліпень. Сказаць пэўна, калі гаспадарка заплоціць сваім работнікам за жнівень, верасень і кастрычнік, кіраўнік не можа, бо гэта наўпрост залежыць ад таго, калі з калгасам разлічацца даўжнікі. Тым часам, па словах Васіля Мікалаевіча, сёлета надвор'е не спрыяла нарыхтоўцы кармоў. Крытычны недахоп вільгаці, спёка практычна загубілі кукурузу. Сіласу і сенажу ў дастатковай колькасці нарыхтаваць не ўдалося і прыйшлося на зіму скараціць агульнае пагалоўе жывёлы. Зноў жа, з-за сушы доўга не ўзыходзілі пасевы азімых збожжавых культур, што адмоўна паўплывае на будучы ўраджай...

Але і ў сённяшніх неспрыяльных умовах кіраўніцтва гаспадаркі мусіць клапаціцца пра будучыню, каб неяк выжываць. Нядаўна па лізінгу "Рассвет" набыў два мінскія трактары апошніх мадыфікацыяў — "МТЗ – 1221В" і "МТЗ – 1221". І хоць кошты гэтых машын непараўнальна высокія з закупачнымі цэнамі на сельгаспрадукцыю, але ў калгасе разумеюць, што без новай магутнай тэхнікі далёка не заедзеш.

Хапае ў людзей і асабістых праблемаў, калі ім прыходзіцца звяртацца па дапамогу да старшыні калгаса. Па-магчымасці, кіраўнік стараецца дапамагчы людзям. Так калгасныя будаўнікі адрамантавалі пашкоджаны ветрам дах хаты калгаснай пенсіянеркі з Вострава Ганны Крупко, за калгасны кошт быў зроблены рамонт хаты, у якой жыве сям'я мясцовага механізатара Івана Яўхуты. Не адмаўляе старшыня вяскоўцам і ў транспарце, калі ўзнікае патрэба нешта прывезці ці перавезці (канечне, калі на той момант ёсць паліва) і ў іншым. Тым не менш, у сённяшніх варунках вясковага жыцця кіраўнік калектыўнай гаспадаркі апынуўся паміж двух агнёў: зверху патрабуюць добрых паказчыкаў па вытворчасці сельгаспрадукцыі пры мізэрнай падтрымцы і ва ўмовах хранічных неплацяжоў, знізу свае калгаснікі патрабуюць сумленна зароблены грошы, якіх няма дзе ўзяць.

### КАМУ СВЯТА, А КАМУ...

У Слоніме раённае кіраўніцтва правяло ўрачысты сход, прысвечаны 85-годдзю Кастрычніцкай рэвалюцыі, ды ўсе разышліся святкаваць і адпачываць аж чатыры дні. А ў калгасе "Рассвет" Слонімскага раёна ўсё было зусім інакш. Навошта тыя ўсхвалялыя прамовы, калі праблем у сельскіх гаспадарках па горла?

Вёска Вострава сустрэла нас бязлюддзем. Калі-нікалі праедуць у краму на ровары вясковы хлопчык ці хто-небудзь з дарослых. І ўсё ж каля калгаснай канторы сустрэлі мы некалькі жанчын.

— Сёмае лістапада раней заўжды святкавалі і ўсяго хапала, — паскардзіліся сялянкі. — А зараз нічога няма. Ды яшчэ за гутарку з вамі, карэспандэнтамі, з працы пагоняць. А той працы, лічы, і няма ўвогуле. Вунь трактарысты ўсе дахаты пайшлі, бо саляркі няма. І што ім зараз рабіць? Піць за вуглом.

Сёння толькі некалькі чалавек на лён адправілі, а астатнія ж па хатах сядзяць.

Крыху весялей і смялей адчувалі сябе механізатары. Міхаіл Крупко кажа:

— А што тое свята, калі трэба лён збіраць. У мінулыя часы ў гэты дзень стабільна ніякай работы не было. Святкаваць, дык святкаваць. Але, мяркую, і сёння знойдзецца, чым адсвяткаваць, хоць грошай нам і не плоцяць.

### НЕ ЖЫВЕМ, А ІСНУЕМ

Тры месяцы не плоцяць калгаснікам з Вострава зарплаты. І усё роўна выходзяць людзі штодня на працу. Сёмага лістапада знайшлі мы невялікую жаночую брыгаду ў чыстым полі — падымалі апошні лён. Сорак радкоў таго льну засталося, і трэба ўбраць яго да снегу, які сіноптыкі абяцалі на 8 лістапада (і, дарэчы, не памыліліся).

Сустрэлі нас жанчыны добразычліва і весела. Але за весялосцю гэтай што ні раз праглядваўся сум: "Вось, выйшлі працай свята адзначыць. А каб не мы — канец калгасу".

Становішча ў вёсцы, сапраўды, цяжкае. Тры месяцы калгаснікі не атрымліваюць зарплату. "Не жывем, а існуем, — кажуць калгасніцы. — І хай не гавораць, што дзяржава нас корміць. Плацілі б спраўна за нашу прадукцыю, і нічога нам больш не трэба." А пра заробкі ў калгасе красамоўна расказала адна з жанчын, як яна за 37 выхадаў на працу ў месяц (!) — бо ўдзень ідзеш, а пасля яшчэ на буракі бяжыш — атрымала 53 тысячы рублёў. Хіба ж магчыма пражыць за гэтыя "слёзы"? А яшчэ ж трэба і дзяцей у школу сабраць. Вось і атрымліваецца, што ні на пахаванне, ні на народзіны грошай няма.

Чаму так? А таму, што і старшыня калгаса, лічаць жанчыны, павінен са свайго боку патрабаваць не толькі ад сваіх падначаленых, але і ад раённых уладаў, а не сядзець, склаўшы рукі. А пакуль што, за папярэдні дзень працы ў полі, сялянкі атрымалі падарунак ад галоўнага агранома — па чатыры цукеркі.

### ДЗЕ СПРАВЯДЛІВАСЦЬ?

Тым часам і сам агранам Міхаіл Савік падышоў да нас. Шчыры чалавек са сваімі сталымі поглядамі на дзень сённяшні. Цікава было паслухаць яго развážанні аб сялянскім жыцці.

— Мы мала што вырашаем, — лічыць галоўны агранам "Рассвета". — Ніхто з намі не разлічваецца своечасова, — як нам жыць? Вось жанчыны гэтыя зарплату не атрымліваюць, а ўсё роўна працуюць. На холадзе, на ветры сцюдзёным. На энтузіязме, на цярпенні.

Калгаснікі нашы бедныя. І чаму ж несправядлівасць такая, бо ў горадзе жывуць лепш, чым у вёсцы? Але некалі зразумеюць, калі голад настане...

Ніяк не можа Міхаіл Савік зразумець, чаму ў калгасе два гады гадуюць карову ці цялушку, возяць корм, паляць святло на фермах, даяркі працуюць з апошніх сіл, а здаюць гэтую карову на мясакамбінат па 900 рублёў за кілаграм? Там яе заб'юць, скуру здзяруць, на чатыры кавалкі пасякуць — і ў магазіне ўжо ляжыць па 6-8 тысяч за кілаграм.

— Адкуль усё гэта? — абураецца агранам. — Усе гэтыя накруткі... А ў выніку і на камбінаце грошай няма. Куды ўсё знікае?!

А знікаюць не толькі грошы. Знікаюць вёскі. Неперспектыўныя, кажуць. А скуль тая перспектыва будзе, калі моладзь з'язджае ў гарады...

### У НОВАЙ ПЕРАВАЛОЦЫ

Вёска Новая Перавалока з разраду так званых неперспектыўных. На сённяшні дзень там жыве 26 чалавек, з якіх амаль усе пенсіянеры. І толькі адзін гаспадар, Пётр Шурко, яшчэ трымае карову. Іншыя, у лепшым выпадку, гадуюць кабана і трымаюць курэй. Сумна параўноўваць, але паваленыя платы і забітыя дошкамі вокны хатаў у Новай Перавалоцы нагадваюць Чарнобыльскую зону. Тут даўно ўжо не працуе крама, а да аўтобуснага прыпынку, каб паехаць у Слонім, патрэбна прайсці добрыя тры кіламетры.

Прыехаўшы ў гэту вёску, мы зайшлі ў хату да Мікалая Іванавіча і Ганны Аляксандраўны Пішчукевічаў. Абое яны пенсіянеры. Жывуць удвух. А ў гаспадарцы — куры і свінні. Што датычыцца свята 7 кастрычніка, то гаспадары адказалі, што свята для іх бывае, калі ў госці прыязджаюць дзеці і ўнукі. У той дзень яны якраз іх чакалі. Але і нам, няпрошаным гасцям, былі шчыра радыя. Бо рэдка да іх завітваюць новыя людзі. Гаспадар жартаваў і ўсё запрашаў за стол, а на развітанне пачаставаў нас вінаградам, які ў іх у гэтым годзе добра ўрадзіў.

### У СТАРОЙ ПЕРАВАЛОЦЫ

Старая Перавалока — другая з вёсак калгаса "Рассвет" пасля Вострава па колькасці жыхароў. Тут ёсць невялікае азярцо і некалькі лугоў, дзе аматары рыбалкі з усяго калгаса і гарадскія госці любяць вясной пасядзець з вудамі. У аб'ектыў фотакарэспандэнта "ГС" (стар. 5) патрапіла сям'я лебедзяў — ён, яна і малое. Лебядзіная пара жыве тут ужо многа гадоў і на зіму заўсёды адлятала ў вырай. Але сёлета, па словах мясцовых жыхароў, у лебедзяў чамусьці позна выведзіся дзеці. Да адлёту ў цёплыя краі яны не паспелі вырасці, і ўся сям'я засталася зімаваць. Аднак зімой азярцо цалкам замярзае, і што чакае гэтых прыгожых птушак ужо ў бліжэйшы час — невядома.

Увогуле, у Старой Перавалоцы, у параўнанні з яе сястрой Новай, — цывілізацыя. Тут ёсць крама і аўтобусны прыпынак. А ў лепшыя часы працавала калгасная лазня. Зараз і ў цэнтральнай сядзібе калгаса, у Вострава, лазня працуе вельмі рэдка — эканомяць салярку.

На вуліцы Старой Перавалокі мы пагутарылі з некаторымі жыхарамі, у якіх асаблівага святочнага настрою не заўважылі — людзі спяшаліся па сваіх справах. Не засталі пакупнікоў і ў мясцовай краме. Як сказала заўмаг Таццяна Лапко, у людзей няма цяпер грошай, каб рабіць святочныя пакупкі.

Старая Перавалока прымыкае да вёскі Засімавічы, якую мы праехалі, не ўбачыўшы на вуліцы ніводнай жывой душы. У Засімавічах жывуць, у асноўным, пенсіянеры.

Апошняй кропкай нашага маршруту стала вёска Смажы. Там, як і ў Новай Перавалоцы, жыве 26 чалавек. Праўда, кароў тут трымаюць пяць гаспадароў. У Смажах мы завіталі на падворак Надзеі Антонаўны Вароны, дзе было, сапраўды, святочнае ажыўленне. На выхадныя да жанчыны прыехалі сыны, якія смалілі кабанчыка. А такое дзейства ў сялянскай хаце — заўсёды свята...

І ў не зусім далёкія яшчэ савецкія часы, на кастрычніцкія святы вяскоўцы выкідалі з хлявоў гной, рэзалі і калолі дровы, свежавалі кабаноў. А вось у калгасе, за выключэннем работнікаў фермы, гэты дзень быў святочным, выхадным. Да свята, звычайна, давалі прэміі лепшым працаўнікам. Цяпер часы змяніліся, і 7 лістапада ў "Рассвеце" з поля ўбіралі апошні лён. Якраз своечасова, бо назаўтра выпаў снег.

**Мікола КАНАНОВІЧ,**
**Валерый КАВАЛЕНКА,**
**Віталь ГІЛЬ (фота)**



*На вуліцы вёскі Вострава 7 лістапада 2002 г.*



*Загадчыца Стараперавалокаўскай крамы Таццяна Лапко*



*Новаперавалокаўскі жыхар Мікалай Іванавіч Пішчукевіч у сваёй хаце*



*Старшыня калгаса "Рассвет" Васіль Серы ў кабінеце праўлення*



*Механізатар Уладзімір Чаркес падвозіў у той дзень кармы на ферму*

ЗЭЛЬВА

## АБРАБАВАЛІ МАГАЗІН

**На мінулым тыдні ў вёсцы Станелевічы невядомыя абрабавалі магазін. Злодзеі патрапілі ў памяшканне праз акно.**

Міліцыя шукае рабаўнікоў.

## АФАНАСЬЕВА АДМЯНІЛА КАНЦЭРТ

**У нядзелю, 10 лістапада, у Зэльве павінен быў адбыцца канцэрт вядомай беларускай спявачкі Іны Афанасьевай.**

Але ў сувязі з тым, што пэўная колькасць білетаў засталася не распраданай, спявачка адмяніла канцэрт. Квіток на выступленне Іны Афанасьевай каштаваў 5 тысяч рублёў.

## ЗАГАРЭЎСЯ ХЛЕЎ

**На мінулым тыдні ў Зэльве адбыўся пажар. У выніку ўзгарання былі сапсаваны гарышча і дах хлява грамадзяніна П.**

Прычына пажару высвятляецца.

## САДЫ АДСЛУЖЫЛІ СВОЙ ТЭРМІН

**У многіх гаспадарках Зэльвенскага раёна будуць выкарчаваны сады. Сады ў калгасах "Караліно", "Бальшавік", "Шлях Леніна", імя Мічурына і некаторых іншых прызнаны непрадукцыйнымі.**

Ужо вясной будучага года на землях, якія займалі сады, будуць расці сельскагаспадарчыя культуры.

**Наталля ГЛУШЭНЯ**

ДЗЯТЛАВА

## РАНА ПАБУДЗІЛІ

**На абочыне аўтатрасы Ліда — Слонім ля вёскі Юравічы Дзятлаўскага раёна восеньскай раніцай ляжала жанчына.**

Людзі падумалі, што яна мёртвая, і паведамілі ў міліцыю. Аказваецца, кабета была жывая, але моцна п'яная. Яе даставілі ў раённы аддзел міліцыі, каб не замерзла на халоднай зямлі. Замест падзякі маладая дама безупынна абкладала міліцыянераў адборнымі мацюкамі за тое, што рана пабудзілі. Як потым высветлілася, гэта была жыхарка вёскі Пацаўшчына Дзятлаўскага раёна грамадзянка В., якая дома пакінула трое дзяцей.

## З НАЖОМ НА СЫНА

**Ноччу п'яная жыхарка вёскі Плябанаўічы Дзятлаўскага раёна стукнула нажом у шыю свайму 24-гадоваму сыну. У выніку чаго ён быў паранены.**

Міліцыя вядзе праверку.

## ЮНЫЯ ТАЛЕНТЫ

**На працягу некалькіх месяцаў наведвальнікі Дзятлаўскага гісторыка-краязнаўчага музея могуць пазнаёміцца з выставай карцін і вырабаў з прыроднага матэрыялу, што створаны вучнямі Дварэцкай сярэдняй школы.**

А нядаўна юныя мастакі прыехалі сюды на сустрэчу з вучнямі дзятлаўскай СШ №2. Яны расказалі пра свае работы, пра тое, што на стварэнне карцін іх натхняе паэзія, у прыватнасці, вершы Уладзіміра Караткевіча і Міхаіла Лермантава. Хлопчыкі і дзяўчынкі з вялікім пачуццём прачыталі многія творы на памяць. Пра работы юных мастакоў з Дварца расказаў іх кіраўнік, настаўнік гісторыі Аркадзь Мяфодзьевіч Сокал. Юныя мастакі падарылі музею дзве цудоўныя карціны, а кожны з іх атрымаў у падарунак кнігі.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

ФОТАФАКТ



Гэтая лебядзіная сям'я засталася на зімоўку ў азярцы вёскі Старая Перавалока Слонімскага раёна, бо сёлета ў сям'і лебедзяў позна вывеліся дзеці. Тым часам азярцо хутка зусім замерзне...

Фота Віталя ГІЛЯ

ВОЛКОВЫСК

## ОТРАВЛЕНИЕ СКОТА

**За три дня в колхозе имени Заслонова Волковысского района потеряли около двухсот голов крупного рогатого скота.**

Причиной случившегося предполагается отравление животных неизвестным веществом, содержащимся в жоме (отходах производства сахарной свеклы), привезённого из Городеи. Результаты лабораторных исследований Волковысской ветлаборатории отрицательны, т. е. причина отравлений не установлена. В связи с этим, части погибших животных и корма отправлены в Гродненскую областную ветеринарную лабораторию. Все заболевшие животные сданы на мясокомбинат на переработку. Их замороженные туши находятся в настоящий момент в холодильнике до получения результатов анализов. Если мясо разрешат перерабатывать, то за вырученные деньги колхоз частично сможет восстановить стадо за счёт купленного скота в соседних хозяйствах. Кроме материального ущерба, причинённого хозяйству вынужденной прирезкой коров, шесть скотников и девять доярок, не получавших зарплату с августа месяца, остались без работы.

**Александр ДАНИЛИН**

МАСТЫ

## ВЕТЭРАНЫ НЕЗАДАВОЛЕНЫ

**Многія ветэраны Вялікай Айчыннай вайны выказалі сваё незадавальненне дзеяннямі мясцовых уладаў і Савета ветэранаў, якія падчас святаў 7 кастрычніка не павіншавалі іх паштоўкамі, як гэта адбывалася ў гады існавання Савецкага Саюза.**

Напярэдадні старшыня райвыканкама А. Кісялёў і старшыня прэзідыума райсавета дэпутатаў Г. Карабко праз мясцовую газету зрабілі гэта. 6 лістапада ў раённым доме культуры адбылося ўрачыстае пасяджэнне, прысвечанае гэтай даце, і невялічкі канцэрт. Улады падобнае мерапрыемства праводзілі для саміх сябе. Ветэраны аб тым не ведалі і не змаглі прысутнічаць. Многія з іх маюць праблемы са здароўем і таму рэдка выходзяць з дому. Яны атрымліваюць невялікую пенсію і не ўсе могуць сабе дазволіць выпісаць газету, у тым ліку і мясцовую раёнку, каб прачытаць віншаванні ў свой адрас.

Райвыканкам, відаць, таксама зацікаўлены ў большай колькасці правядзення культурных мерапрыемстваў, бо запланаваная на гэты дзень прэзентацыя кнігі "Памяць" адкладзена на нявызначаны тэрмін. Пасля таго як ветэраны, даведаўшыся з незалежнага друку аб выхадзе гэтай кнігі, пастаянна турбуюць райвыканкам з мэтай яе набыцця, нават за ўласны кошт, ім даюць неакрэсленыя абяцанкі, што яны будуць мець кнігу дарэмна падчас прэзентацыі. Аднак большасць з іх не зможа прысутнічаць на гэтым мерапрыемстве.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

МАСТЫ

## АГОНЬ ПАТРАБУЕ АХВЯРЫ

**У мінулую суботу загарэўся драўляны дом па вуліцы Станцыённай.**

Жанчына, заўважыўшы пажар, змагла выскачыць з палаючага будынка. Гаспадар, які меў крыху болей за 60 гадоў, загінуў у агні.

Пажарныя не далі агню перакінуцца на суседнія дамы. А ад гарэўшага дома засталіся толькі сцены.

## ЦАРКВА АДЗНАЧЫЛА ГАДАВІНУ

**У Мастах у царкве Усіх Смуткуючых Радасці адбылося набажэнства ў гонар яе гадавіны.**

Сюды з'ехаліся святары шматлікіх праваслаўных прыходаў Гродзеншчыны. Не ўсіх прыхаджан змаглі змясціць сцены божага храма. Вернікі не разыходзіліся на працягу некалькіх гадзін, пакуль вёў службу Уладыка Арцемій, епіскап Гродзенскі і Ваўкавыскі.

## ПАГРОЗЫ "ГАЗПРАМА" ЛУННА НЕ ПАЛОХАЮЦЬ

**Жыхары вёскі Лунна, дзе адбываецца газіфікацыя, асабліва не разлічваюць на стабільнасць яго пастаўкі.**

Ніхто з вяскоўцаў не пазбавіўся печы, і, як сведчаць самі жыхары, палова з іх выкарыстоўвае традыцыйны метад паліва і ацяплення дамоў, каб не плаціць лішняга.

**Антон МАКЕЙ**

ВОЛКОВЫСК

## НОВАЯ КНИГА

**Сборник стихов о Волковыске готовит к изданию местный поэт Вячеслав Макуть.**

Это будет его вторая книга. Первая вышла несколько месяцев назад под названием «Калейдоскоп жизни». Окрылённый новой идеей, поэт передаёт бумаге свои мысли о природе, героическом прошлом района и его людях. Книгу украсят иллюстрации на местные темы.

## ШИЛА В МЕШКЕ НЕ УТАИШЬ

**Возбуждено уголовное дело в отношении гражданина С., бухгалтера Волковысского филиала ОАО «Гродноопторг».**

Гражданин С. с целью сокрытия совершённых ранее хищений денежных средств оформлял фиктивные расходные кассовые документы и вносил подложные данные в бухгалтерский отчёт.

## ТРАГЕДИЯ НА ЖЕЛЕЗНОДОРОЖНОМ ПЕРЕЕЗДЕ

**Житель Зельвы 1952 года рождения, управляя автомобилем ВАЗ-2101, на переезде возле деревни Войтковичи Волковысского района, несмотря на запрещающие сигналы светофора на железной дороге, выехал на переезд, где произошло столкновение с локомотивом.**

Увидев выехавший на переезд автомобиль, машинист применил экстренное торможение, но локомотив протянул автомобиль ещё около двухсотпятидесяти метров. В результате аварии водитель и двое пассажиров погибли и ещё один с тяжёлыми травмами доставлен в больницу в шоковом состоянии. По трагической случайности этим же локомотивом месяц назад в Слониме был сбит человек.

**Александр ДАНИЛИН**

МАСТЫ

## У ПОШУКАХ СПРАВЯДЛІВАСЦІ

**Жыхары шэрагу дамоў па праспекце Юнацтва ўжо колькі гадоў патрабуюць ад мясцовых уладаў добраўпарадкаваць свае двары.**

Месяц назад адбылася сустрэча прадстаўнікоў дамоў з намеснікам старшыні райвыканкама Генадзем Снітко, але абяцанкі апошняга правесці сёлета нават дробныя работы так і засталіся абяцанкамі.

Каб дабіцца вырашэння праблемы, жыхары дамоў зноў распачалі збор подпісаў пад зваротам. У гэты раз скарга накіравана на імя старшыні аблвыканкама Уладзіміра Саўчанкі.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

АРМИЯ

## О ПРИЗЫВЕ ГРАЖДАН НА СРОЧНУЮ ВОЕННУЮ СЛУЖБУ

**На основании закона РБ «О всеобщей воинской обязанности и военной службе» и указа Президента РБ № 543 от 2 ноября 2002 года на территории Слонимского района Гродненской области с 1 ноября 2002 года по 31 января 2003 года проводится призыв граждан на военную срочную службу в Вооружённые Силы РБ.**

Явке на призывной участок Слонимского района для призыва на срочную военную службу подлежат все граждане 1984 – 85 г.г. рождения, которым ко дню призыва исполнилось 18 лет, а также граждане, родившееся в 1975 – 1984 г.г., у которых истекли отсрочки от призыва, или не призванные ранее по каким-либо причинам.

Все граждане, подлежащие призыву на срочную службу в ВС РБ, обязаны прибыть на призывной участок по адресу: г. Слоним, ул. Пушкина, 52 точно в срок с документами, указанными в повестке. Граждане, не получившие повесток о явке для призыва на срочную военную службу, обязаны прибыть в РВК в течение дня 20 ноября 2002 года, имея с собой документы, удостоверяющие личность.

Все лица призывного возраста, подлежащие призыву на срочную службу, временно прибывшие на территорию Слонимского района, обязаны незамедлительно возвратиться к месту постоянного жительства и явиться в военный комиссариат, в котором они стоят на воинском учёте для прохождения призывной комиссии.

Граждане, не явившиеся своевременно для призыва на срочную военную службу, либо уклоняющиеся от явки на призывной участок, несут ответственность согласно действующему законодательству.

На основании Закона РБ «О всеобщей воинской обязанности и военной службе» руководители предприятий, учреждений, организаций, колхозов и учебных заведений обязаны освободить от работы (учёбы) на время, необходимое для прохождения призыва, отозвать призывников из командировок и обеспечить своевременную явку их на призывной участок.

**Анатолий МИХАЛЬЧИК, Слонимский районный военный комиссар**

ЭКОНОМИКА

# ДОЛГ ЗА РОССИЙСКИЙ ГАЗ



Фота IREX/ProMedia

*Владыка Гурий освящает оборудование первой нитки белорусской части газопровода "Ямал-Западная Европа", которая была торжественно открыта 21 сентября 1999г.*

**ОАО "Газпром" рассчитывает, что белорусская сторона до конца года сможет выполнить взятые на себя обязательства по оплате газа, поставленного в 2002 году, и сокращению задолженности за газ, поставленный в 1999—2001 годах.**

Эти действия, в свою очередь, послужат надежной основой для заключения договора на поставку газа белорусским потребителям в 2003 году. Об этом говорится в заявлении, распространенном 10 ноября пресс-службой газового холдинга.

Напомним, что с 1 ноября "Газпром" ограничил поставки в Беларусь газа на 50 процентов, что стало причиной резких высказываний в адрес Кремля президента Лукашенко, обвинившего Россию в давлении на Беларусь. 8 ноября "Газпром" увеличил поставки газа до 75 процентов от прежнего объема.

Как отмечается в заявлении холдинга, "Газпром" в 2002 году осуществляет поставки газа в Республику Беларусь в полном соответствии с взятыми на себя обязательствами в рамках контракта, заключенного между ОАО "Газпром" и РУП "Белтрансгаз" 21 декабря 2001 года. На момент заключения данного договора задолженность белорусских потребителей за газ, поставленный в 1999 — 2001 годах, составляла 157 млн. долларов США. Объемы поставок на 2002 год в данном контракте сторонами были определены в размере 10,2 млрд. кубических метров, с поквартальной разбивкой. Стоимость 1 тыс. кубического метра газа была определена данным контрактом на уровне 30 долларов США, а общая сумма контракта составила 306 млн. долларов. При этом услуги "Белтрансгаза" по транспортировке газпромовского газа по магистральным газопроводам, проходящим по территории Беларуси в направлении Польши, Украины и Литвы, оценивались в 45,7 млн. долларов США.

Как отмечается в заявлении, в апреле 2002 года уполномоченными представителями сторон была подписана "Программа погашения задолженности Республики Беларусь и обеспечения текущих платежей за газ", в которой, идя навстречу пожеланиям белорусской стороны, была зафиксирована возможность частичной оплаты газа товарами, произведенными на белорусских предприятиях. В мае 2002 года, в соответствии с межправительственным соглашением, подписанным 12 апреля, и соответствующим постановлением правительства России, "Газпром" подписал дополнительное соглашение к данному контракту, в котором цена за поставляемый белорусским потребителям газ была снижена с 1 мая до уровня пятого ценового пояса России (Смоленская область), то есть до 660 российских рублей за 1 тысячу кубометров (21 доллар США). Тогда же в результате переговоров стороны пришли к соглашению о том, что в период с мая по декабрь белорусская сторона ежемесячно должна перечислять в счет оплаты за газ 9,8 млн. долларов и до конца года выплатить 78,4 млн. долларов. В соответствии с решением правительства России и Федеральной энергетической комиссии Российской Федерации, с 1 июля и до конца 2002 года оптовые цены на газ в Российской Федерации были повышены на 15 процентов, и для потребителей пятого ценового пояса, включая белорусских потребителей, в настоящее время составляют около 760 российских рублей за одну тысячу кубических метров (24 доллара). Белорусская сторона, говорится в заявлении "Газпрома", в нарушение контракта в 3-м квартале 2002 года "осуществила сверхконтрактный отбор газа в объеме 1,042 млрд. кубометров". В октябре 2002 года отбор газа сверх контракта составил 309 млн. кубометров. 17 октября руководители "Белтрансгаза" были официально проинформированы о том, что по состоянию на 15 октября в Беларусь было поставлено 8,4 млрд. кубических метров газа, и при повышенных темпах его отбора, контракт на поставку 10,2 млрд. кубических метров будет выполнен к 15 ноября. "Газпром" предложил белорусским коллегам снизить объем отбора газа в 2 раза и принять неотложные меры по заключению договоров с независимыми производителями на поставку газа в Беларусь в ноябре-декабре 2002 года. К 1 ноября 2002 года белорусскими потребителями были отобраны 9,8 млрд. кубических метров газа. Общая стоимость поставленного газа составляет 274 млн. долларов, из которых оплачено 224 млн. долларов (81 процент). Таким образом, заявляет "Газпром", долг белорусских потребителей за поставленный газ вырос на 50 млн. долларов (со 157 млн. в начале 2002 года до 207 млн.). С учетом пени и штрафов суммарная задолженность составила 282 млн. долларов. При этом в соответствии с подписанными соглашениями белорусская сторона должна была денежными средствами за поставленный газ заплатить 58,8 млн. долларов, однако было выплачено не более 20 млн. долларов 1 ноября 2002 года. "Газпром" направил белорусским потребителям официальное уведомление о необходимости сократить отбор газа на 50 процентов. При этом белорусская сторона была проинформирована о том, что даже при таком сокращении темпов отбора газа "Газпром" выполнит свои обязательства по поставкам в Белоруссию 10,2 млрд. куб. метров к 15 ноября 2002 г. После введения ограничения поставок белорусская сторона перечислила "Газпрому" 11 млн. долларов. Таким образом, сумма денежных расчетов с начала года была доведена до 31 млн. долларов (12 процентов от суммы контракта). "В настоящее время, в связи с отсутствием у "Газпрома" свободных нераспределенных объемов газа на 2002 год, мы по-прежнему предлагаем белорусским коллегам провести переговоры с производителями газа в России, либо в странах СНГ, и заключить с ними договоры на поставку газа в ноябре-декабре 2002 года", — отмечается в официальном заявлении ОАО "Газпром".

При этом "Газпром" готов взять на себя обязательство по транспортировке закупленных Беларусью объемов газа по системе российских магистральных газопроводов в приоритетном порядке.

В своей позиции, отмечается в заявлении, "Газпром" исходит исключительно из приоритетности безусловного исполнения сторонами взятых на себя обязательств, норм и правил цивилизованных деловых отношений, а также экономической их целесообразности и взаимовыгодности. "Газпром" осуществляет ограничение поставок и другим потребителям в случае превышения ими договорных объемов отбора газа, либо несвоевременной оплаты товара или услуг.

**БелаПАН**

ПОЛИТИКА

# США ГОТОВЫ ПРИНЯТЬ МЕРЫ ПРОТИВ БЕЛАРУСИ

**Отчет генерального секретаря ОБСЕ Яна Кубиша, который посетил Минск 3—4 ноября, "не отражает никакого конкретного прогресса" в направлении сотрудничества Беларуси с ОБСЕ, отметил заместитель главы миссии США в ОБСЕ Дуглас Дэвидсон на заседании Постоянного Совета ОБСЕ 9 ноября в Вене.**

Также он сообщил, что "по причине отсутствия конкретного прогресса, США, как и Евросоюз, готовы, наконец, принять конкретные меры, которые отражают серьезность нашей озабоченности этой проблемой и теми потерями, которые она приносит целостности организации".

"Все мы слышали позитивные высказывания со стороны Беларуси и раньше, даже во время выдворения сотрудников миссии ОБСЕ и нарушения обязательств в рамках этой организации, — заявил Дуглас Дэвидсон. — Нет необходимости слушать новые высказывания доброй воли. То, что сегодня надо видеть — развязку этого кризиса".

Американский представитель в ОБСЕ также отметил, что в Беларуси продолжаются преследования представителей оппозиции. Дэвидсон напомнил членам Постоянного Совета о задержании сотрудниками КГБ 5 ноября, при выходе из американского посольства в Минске, лидера Объединенной гражданской партии Анатолия Лебедько. КГБ предупредил Лебедько о возможности выдвинуть против него обвинение в измене родине, если он продолжит встречаться с официальными представителями иностранных властей. "Бесстыдные попытки режима Лукашенко запугать политическую оппозицию, чтобы та не встречалась с мировым сообществом, только подтверждают последние свидетельства его неуважения к той свободе контактов и движения, которая обычно доступна политическим представителям в демократическом обществе", — заявил Дэвидсон.

**Анна МУРАВСКАЯ**

БАРАНОВИЧИ

# НАЧИНАЮТ РАБОТАТЬ ДВА ОТДЕЛЕНИЯ МИЛИЦИИ

**В Барановичах вместо одного начинают работать два городских отделения милиции. Для этого приказом МВД выделена дополнительная штатная численность в 22 человека.**

Это и другие преобразования проходят в Барановичском ГОВД после состоявшейся в октябре рабочей поездки в город министра внутренних дел Владимира Наумова.

По словам начальника Барановичского ГОВД полковника милиции Александра Сухаревича, образование двух самостоятельных городских отделений милиции со своими службами участковых инспекторов и дежурными частями является крайне важным для города и позволит милицейским службам реагировать на заявления граждан своевременно. После предстоящего в ближайшее время переезда районного отдела милиции в другое здание, в главном здании ГОВД по ул.Чкалова сосредоточатся все необходимые для успешного расследования преступлений службы: криминалистов, экспертов, группа по борьбе с незаконным распространением наркотиков и другие. В настоящее время все эти структурные подразделения разбросаны по разным районам города.

Дежурной части Барановичского ГОВД выделили новый пульт и систему видеонаблюдения. Такая же система в ближайшем будущем будет установлена и на городском рынке. ГОВД получил два новых автомобиля "газель" для выездов оперативно-следственной группы. Уже приобретены и установлены два новых мощных компьютера для создания банка данных межрегионального значения.

"Криминогенная ситуация в городе остается крайне сложной, — сказал начальник Барановичского ГОВД Александр Сухаревич. — Я надеюсь, что вместе с нововведениями материального порядка изменится и подход всех без исключения сотрудников к своим обязанностям. Работать по старинке теперь нельзя".

**Антон НИКИТИН**

ОБЩЕСТВО

# ЛЕВОНЕВСКИЙ НАМЕРЕН ТРЕБОВАТЬ КОМПЕНСАЦИЮ

**Компенсацию морального вреда на общую сумму 15 миллионов рублей намерен потребовать лидер Республиканского стачкома предпринимателей Валерий Левоневский с двух отделов внутренних дел города Гродно.**

Как сообщил БелаПАН Левоневский, он планирует предъявить два иска: 14 миллионов к спецприемнику Октябрьского РОВД Гродно и 1 миллион — к изолятору временного содержания (ИВС) Ленинского РОВД. Из спецприемника Левоневский был освобожден 7 ноября, после 15-суточного ареста за организацию несанкционированного митинга в Гродно. В первый день ареста его поместили в ИВС, после чего перевели в спецприемник.

"Там полный бардак, не соблюдаются элементарные санитарные нормы, нарушаются права человека. Условия в два-три раза хуже тюремных, — говорит Левоневский. — Я буду пытаться там что-то изменить: и условия содержания, и отношение к заключенным".

Сейчас на рассмотрении коллегии Гродненского областного суда находится еще один иск г-на Левоневского на 15 миллионов к спецприемнику Октябрьского РОВД. Там Левоневский отсидел 15 суток ареста за неуважение к суду еще в июне.

"С момента моей последней отсидки почти ничего не изменилось, хотя я тогда написал более 20 жалоб на условия содержания, — говорит Левоневский. — Только света стало больше в камерах, и стали людей чаще выводить в туалет".

**Ирина ЧЕРНЯВКА**

СПОВЕДЗЬ

# Я ЦЯБЕ НЕ ЛЮБЛЮ...


Малюнак Яўгена ІВАНОВА

Заацвітаў бэз. Ён рос на бальнічным двары паабапал асфальтаванай дарожкі, і я, ідучы на работу, удыхаў духмяны водар, радаваўся вясне і жыццю. Гэтай раніцай я быў шчаслівы як ніколі, бо ноччу нарадзіўся мой сынок-першынец. Перш-наперш забег у раддом да жонкі, а потым пайшоў у наркалагічнае аддзяленне, што размяшчалася ў гэтым жа бальнічным гарадку, дзе я ўжо тры гады працаваў урачом.

— Ну, што ў нас тут новенькага? — спытаў у дзяжурнай медсястры — пажылой і спакойнай Кацярыны Піліпаўны.

— Ды амаль нічога, калі не лічыць, што ноччу міліцыя прывезла новую пацыентку. Падабралі на чыгуначным вакзале п'яную, запушчаную, страшную. Цяпер ужо, мабыць, праспалася, бо я ёй сёння дала патрэбныя лекі, паставіла крапельніцу. Пагледзіце потым, яна ляжыць у чацвёртай палаце.

Я заняўся неадкладнымі справамі, потым пагартаў гісторыю хваробы новенькай. Нічога асаблівага там не знайшоў і пайшоў у палату. На ложку, ля самых дзвярэй, ляжала худая жанчына са спітым азызлым тварам. На мяне паглядзелі пустыя вочы, у якіх не адлюстроўвалася ніякае жаданне шкадавання ад таго, што апусцілася на самае дно жыцця. Для нармальнага чалавека горш такога становішча і не прыдумаеш.

І ўсё ж мяне нешта насцярожыла, занепакоіла: на верхняй губе жанчыны, справа, былі дзве радзімкі — адна большая, другая меншая. Такое сустрэнеш не часта. Я глядзеў на гэтыя радзімкі як зачараваны.

— Як ваша імя і прозвішча? — спытаў не сваім голасам.

— Таццяна Коласава, — ледзь чутна прамовіла яна.

— А раней другога прозвішча не было? — дапытваўся з нейкай апантанасцю.

— Калябродская... Па першаму мужу...

Я павярнуўся і хутка пайшоў з палаты. У ардынатарскай адчыніў фортачку, закурыў. Рукі дрыжэлі, і я ніяк не мог справіцца з хваляваннем. Добра, што ўрачы былі на абходзе і такога майго стану ніхто не заўважыў.

— Гэта яна... яна, тут не можа быць ніякай памылкі. І радзімкі, і прозвішча — усё супадае.

... Мне тады было гадкоў пяць, і разам з маці я жыў у невялікай лясной вёсачцы. Хаця жыў сказана занадта, хутчэй існаваў. Мая маці была алкагалічкай, а бацькі наогул ніколі не бачыў. Маці на некалькі дзён знікала з дому, а каб я не высоўваўся ў акно і не прасіў у прахожых ежы, яна перад адыходам прымушала мяне выпіць паўчаркі віна, а потым прывязвала за нагу да ножкі стала і замыкала хату на замок.

Праспаўшыся, я адчуваў сябе вельмі дрэнна: кружылася галава, ванітавала, хацелася піць. Я не мог нават дабрацца да вядра з вадой, што стаяла ў парозе на табурэтцы, каб наталіць смагу. Галодны і халодны то ляжаў, то сядзеў на падлозе, аж пакуль, нарэшце, не з'яўлялася маці. Часта на добрым падпітку, з чужымі мужчынамі. Яна адвязвала мяне, нібыта якога шчанюка, і пускала на двор пагуляць. Але які там былі гулі, калі нясцерпна хацелася есці. На слабых нагах я ішоў на другі канец вёскі да цёткі Марусі, зусім чужой, але вельмі спагадлівай жанчыны, і яна налівала мне місачку супу, давала кавалачак сала ці якой іншай яды і са слязамі на вачах глядзела, як я глытаў ежу амаль не жуючы. Напэўна ў гэты час я быў падобны на галоднага звярка, бо цётка крадком выцірала слёзы.

Аднойчы маці некуды так спяшалася, што забылася даць мне гарэлкі і прывязаць да ножкі стала. Я паставіў табурэтку і ўсчарэпкаўся на падаконнік, адчыніў фортачку.

— Цётачкі, дайце мне хоць кавалачак хлеба! — жаласліва папрасіў жанчын, што ішлі па вуліцы.

— Зараз, Дзімачка, пачакай, мы выбавім цябе з гэтай турмы і накормім, — паабяцалі яны.

Неўзабаве жанчыны вярнуліся з двума мужчынамі. Адзін з іх быў у міліцэйскай форме. Яны сарвалі на дзвярах прабой і ўвайшлі ў хату. Бруд, запусценне і галеча настолькі ўразілі гэтых людзей, што яны не маглі больш пакідаць мяне ў хаце. Завялі да цёткі Марусі. Я там пражыў амаль месяц, пакуль з'явілася маці. Яна прыйшла і прасіла цётку, каб аддала мяне, але тая не паслухалася. А яшчэ праз некаторы час адбыўся суд, які пазбавіў маю маці яе правоў.

Калі з залы суда мяне забіралі ў дзіцячы дом, я падышоў да яе і з нянавісцю прамовіў:

— Я цябе не люблю!

Здавалася, што ў гэтыя словы ўклаў увесь боль, усю горыч, што накапіліся за доўгі час пакутаў, прыніжэння і гора.

Мне пашанцавала больш, чым іншым дзецям — сіротам пры жывых бацьках, бо мяне ўсынавіла сям'я добрых і прыстойных людзей, якія прыехалі з іншага гарадка. Памятаю, як мы доўга ехалі на цягніку, потым на аўтобусе і апынуліся ў вялікай вёсцы.

Праз год я пайшоў у школу, дзе працавалі настаўнікамі мае прыёмныя бацькі. Я ўжо быў у шостым класе, калі ад невылечнай хваробы памёр мой тата, якога я любіў як роднага, а ён любіў мяне. А мая матуля, не ў сілах перажыць такое гора, цяжка захварэла на сэрца. Ёй далі інвалідскую групу. Жылі мы сціпла, але мама зрабіла ўсё дзеля таго, каб забяспечыць мне будучыню. Я паступіў у медыцынскі інстытут і паспяхова яго закончыў.

Пасля вучобы прыехаў на работу ў гэты горад. Праз паўгода я ажаніўся і забраў у сваю сям'ю маму. На шчасце, яны вельмі пасябравалі з маёй жонкай, і мы зажылі душа ў душу.

... У той памятны дзень шчасце ад таго, што я стаў бацькам, перамяшалася з горыччу сустрэчы з той, чужой для мяне жанчынай, якая ў дзяцінстве прынесла мне столькі пакут.

Вечарам, калі прыйшоў з работы, расказаў аб гэтым сваёй любай матулі.

— Сынок, ты павінен прызнацца, што пазнаў яе..., — з упэўненасцю сказала мама.

— Ні за што на свеце!... Яна украла ў мяне дзяцінства, здзекавалася, як магла...

— Сынок, — зноў паўтарыла мама. — Ты павінен дараваць. У цябе ж добрае, спагадлівае сэрца. Давай разам сходзім да яе ў бальніцу, занясём якіх-небудзь прысмакаў... Калі ёй няма дзе прыхіліць галаву, то няхай пакуль пажыве ў нас.

Яна яшчэ доўга ўгаворвала мяне, пераконвала, і назаўтра раніцай (а тады была субота і ў мяне значыўся выхадны дзень) мы накіраваліся ў наркалагічнае аддзяленне. Для надзвычай цікаўных саслужыўцаў была прыдумана версія, што гэтая алкагалічка — проста знаёмая маёй мамы.

Пераступіўшы парог аддзялення, я перш-наперш зазірнуў у палату. Ложак ля дзвярэй быў пусты і засланы свежай бялізнай.

— А дзе ж тая хворая з радзімкамі? — спытаў я ў дзяжурнай медсястры.

— Уцякла яшчэ ўчора вечарам. Нікому нічога не сказала. Пайшла нібыта пагуляць па двары і не вярнулася.

"Дзякуй Богу! — узрадаваўся я. — Як кажуць, з ветру прыйшла, на вецер і пайшла."

— Спазніліся мы, — расчаравана прамовіла мая добрая мамачка. Яна была засмучана, што ўсё так атрымалася, а я быў проста шчаслівы.

— Надвячоркам яна ўсё распытвала пра вас, — сказала нянечка, якая дзяжурыла ў аддзяленні суткі. — Што за доктар, адкуль ён, як яго прозвішча. Я што ведала, тое і расказала.

— Яна здагадалася, што ты яе родны сын, якому здрадзіла, якога ашукала ў самых лепшых пачуццях і кінула на волю лёсу, — сказала мама, калі мы выйшлі на алею, дзе так хораша пахла бэзам. — Няшчасная жанчына, сама сябе абакрала... Ды Бог ёй суддзя.

Я ўзяў маму пад руку, і мы пайшлі дадому, дзе заўсёды жылі радасць, чысціня і святло...

З пашанай, Дзмітрый Арцёмавіч.

**Запісала Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

ПОЧТА

# ПУТЕШЕСТВИЕ В СТРАНУ ЗНАНИЙ

**Увлекательное путешествие в страну Знаний происходит каждый день в 1 "А" классе средней школы №10 г. Слонима. Наши детки занимаются по технологии "Шаг за шагом".**

А происходит все это благодаря нестандартному подходу к уроку, к личности каждого ребенка. Сорок пять минут ребята проводят не только за партой, а и на ковре, расходятся по рабочим центрам, где выбирают занятие, которое нравится именно им. Изготавливают книжки-малышки, становясь поэтами и писателями. Проводят их презентацию, усаживаясь в мягком уютном кресле автора. У детей развиваются актерские способности.

Так была инсценирована сказка "Путешествие в страну "Мылляндию". Ребята играли свои роли в настоящих костюмах и с декорациями.

Хочется отметить, что уже начиная с подготовительного класса, наши дети учатся пользоваться энциклопедиями, справочной литературой, с интересом читают детские газеты и журналы.

И конечно же, тесный контакт учителя, детей и родителей. Каждый родитель старается жить жизнью класса, оказывать посильную помощь. Родители стараются быть как можно чаще в школе. Это прослеживается через проведение совместных праздников и уроков. Останется надолго в нашей памяти праздник "Посвящение в ученики". Веселые песни, игры, стихи, состязание на "Поле чудес" позволили и детям, и родителям стать ближе друг к другу. Проект "Суперребенок" позволяет рассказать об интересах всей семьи. Ребята с удовольствием доносят самую интересную информацию о себе и своих близких всему классу.

Выражаем глубокую благодарность учителям и администрации СШ №10 г.Слонима за такую возможность обучения и воспитания наших детей, за создание теплоты и уюта в детских сердцах.

**Людмила РАГУЛИНА**

УВЛЕЧЕНИЕ

# СЛОНИМ В ИНТЕРНЕТЕ

**Интернет – слово, звучащее всё чаще со страниц газет, журналов и телеэкранов. Но истинное значение его могут знать только счастливые обладатели персональных компьютеров, путешествующие по страницам всемирной информационной системы.**

Сколько же этих счастливцев в Слониме? Зарегистрировавшихся и получивших индивидуальный номер для общения в Интернете, в аське (как в простонародье называют программу ISQ), всего 20 человек! Эти 20 человек могут общаться напрямую с пользователями Интернета по всему миру, используя клавиатуру, а имеющие микрофон и звуковые колонки – разговаривать в прямом эфире.

Для 52 тысячного города Слонима это маловато. Критерием может служить наличие какой-либо информации в Интернете, посвящённой нашему городу, говоря языком Интернет – сайтов. Ещё три месяца назад ничего этого в Интернете не было. Но количество пользователей компьютеров растёт, и, наконец, кто-то из них решился создать свой сайт и называет его «Мой Слоним».

Теперь наш город стоит в одном ряду с такими городами как Минск, Гродно, Брест, Барановичи, имеющими свои сайты! Стоит набрать адрес: http://www.myslonim.narod.ru, и человек, находящийся далеко за пределами Беларуси, может увидеть фотографии достопримечательностей Слонима, узнать его историю, кто из известных людей родился здесь, творил и многое другое, даже расписание движения автобусов.

А виновником этого события стал наш земляк Андрей Черненко. Военнослужащий, человек увлечённый художественной фотографией. Именно он решился на создание в Интернете сайтов (их уже два), посвящённых Слониму и его жителям. Надеемся, что настойчивость и трудолюбие Андрея станут гарантом того, что информации о нашем городе будет больше, а сайты — ещё интересней.

**Александр ИВАНОВ**

МНЕНИЕ

# ГОДОВЩИНА НОМЕР 85

7 ноября члены партии коммунистов Беларуси в скорбном молчании, скорее всего, возложили цветы к подножию вождя белорусского и всемирного пролетариата — Ленину — в скверике на Первомайской улице. Ленин на пьедестале, с вытянутой рукой, указующей на строящийся собор, уже освящённый патриархом Алексием II, смотрит с молчаливым укором: "Я этот опиум для народа уничтожал, а вы возрождаете?..".

В своих трудах Ленин за основу взял слова теоретика марксизма Карла Маркса, который 1 ноября 1850 года изрёк: "Революции — локомотивы истории". А после Октябрьского переворота 1917 года появилась и песня:

*Наш паровоз вперед летит,*
*В коммуне остановка...*

Но гений Ленина не додумал, что КПД (коэффициент полезного действия) локомотивов того времени был всего 6-10%. Остальные же 90% восполнили народные жертвы, люди и ценности, превратившиеся в прах.

И еще один постулат марксизма-ленинизма: "Пролетариат может и должен взять власть в свои руки". А кто сказал, что пресловутая "кухарка" сможет эффективно руководить страной? Ленин. Вот и стала страна всеобщей кухней.

Мой вам совет, коммунисты, — если не можете убрать или перенести своего вождя в другое, более подходящее ему место, то разверните его в сторону полуразрушенной синагоги. Пусть через эти руины и ведет вас в коммунизм.

Но, если честно, жалко вас. Ведь вы все добрые, отзывчивые, работящие. Я всех вас знаю давно. Да и не коммунисты вы, на самом деле. "Коммунисты" были и жили при коммунизме еще 40 лет назад. Это — президиум и члены ЦК КПСС, обкомы, горкомы и райкомы партии, политбюро. А все остальные были просто "членами". Что хотели с вами, то и делали. Я сам был таким "членом" партии, секретарем первичной организации управления дивизии, поэтому знаю всю подноготную коммунистов хорошо. Но не верил я в этот абсурд, хотя видимость веры создавать приходилось. И не поверят вам, вашей абсурдной идеологии наши потомки.

**Анатолий БАБИЧ**

УСПАМІНЫ

# ЯК МЫ СТАВІЛІ КРЫЖ

**У 1963 годзе бальшавіцкай уладай быў знесены праваслаўны Спаса-Прэабражэнскі сабор, які размяшчаўся ў цэнтры Слоніма, насупраць гасцініцы "Шчара". На месцы сабора застаўся падмурак, які з цягам часу здзірванеў, зарос бур'янам.**

Каля падмурка ўлады паставілі драўляную летнюю пляцоўку, а таксама невялікі павільёнчык, дзе прадаваліся напіткі, піва. Такім чынам, гэты пагорачак аблюбавалі мясцовыя аматары спіртнога.

У 1991 годзе падчас сустрэчы з работнікамі Слонімскага гарвыканкама актывісты гарадской Рады БНФ "Адраджэньне" праведалі, што гарвыканкам мяркуе зрабіць там сквер. Помніцца, асабіста я перажыў тады штосьці падобнае калі не на шок, то на моцнае ўзрушэнне: ведаў жа, што каля храмаў звычайна хаваюць святароў, іншых знакамітых людзей.

Мае сябры па партыі тэрмінова сабраліся разам і даручылі старшыні Слонімскай Рады БНФ Ракевічу Мікалаю Іванавічу напісаць заяву ў Слонімскі гарвыканкам аб дазволе ўстанавіць Крыж на месцы разбуранага Спаса-Прэабражэнскага сабора, што шаноўны Мікалай Іванавіч і зрабіў.

З нецярпеннем чакалі адказу на сваю заяву. І дачакаліся. Адказ быў адмоўны. Улады зноў напомнілі, што на тым пагорачку будзе зроблены сквер, растлумачылі нам, што крыж не ўпішацца ў дадзеную мясцовасць, папсуе агульны архітэктурны стыль горада.

Фронтаўцы вырашылі не адступацца, дзейнічаць настойліва, мэтанакіравана, рэальна. Устанавілі цесную сувязь з царкоўным саветам і дамовіліся каардынаваць свае дзеянні, а ў майстэрні Слонімскай камвольна-прадзільнай фабрыкі заказалі вялікі металічны Крыж. Калі заплацілі за ягонае выкананне, ушчыльную паўстала пытанне аб установцы дадзенага Крыжа.

Гарадскія кіраўнікі катэгарычна выступілі супраць. Нягледзячы на гэта, яны папрасілі паэта, гісторыка, археолага і краязнаўцу Васіля Супруна, каб паказаў, дзе можна лепш за ўсё паставіць Крыж. Ён павінен быў стаяць менавіта за падмуркам. Васіль Рыгоравіч цудоўна справіўся з ускладзенай на яго задачай.

Калі не памыляюся, 14 кастрычніка 1991 года, у другой палове дня, Крыж прывезлі на пляцоўку летняй сцэны каля падмурка разбуранай царквы.

Потым, па дамоўленасці са святаром, айцом Сергіем (Гардуном), на пагорку сабраліся актывісты-вернікі і сябры гарадской арганізацыі БНФ, усяго каля трыццаці чалавек. Памятаю, разам са мной былі Мікалай Ракевіч, Васіль Струпавец, Жэня Пракулевіч і іншыя слонімцы.

Надвор'е выдалася халаднаватае. Церушыў мокры снег. Узяўшы рыдлёўкі і ламы, мы сталі капаць траншэю пад Крыж. Канешне, хваляваліся, але жаданне давесці да канца пачатую справу перамагала. Праца ішла не так хутка, як хацелася: грунт быў цвёрды, камяністы. Наверх выкідалі з траншэі не толькі зямлю, але і каменні, цэглы, кавалкі бетону. Адна група энтузіястаў працягвала капаць траншэю, а другая адправілася збіраць каменні каля вёскі Шылавічы. Хутка ўсё было падрыхтавана для ўстаноўкі Крыжа.

Прыкладна ў гэты час з'явіліся два прадстаўнікі гарадской улады. Ва ўльтыматыўнай форме яны запатрабавалі ад актывістаў спыніць працу. Мужчыны ў спрэчку стараліся не ўступаць, а вось жанчыны паказалі, што валодаюць добрымі аратарскімі здольнасцямі. Яны далі такі дружны адпор візіцёрам, што тыя мусілі рэціравацца і звярнуцца па дапамогу ў раённы аддзел міліцыі. З'явіўся маёр, уважліва выслухаў абодва бакі і сказаў, што не бачыць тут парушэння правапарадку, а таму не будзе перашкаджаць ставіць Крыж.

Непажаданыя візіцёры яшчэ некалькі разоў трывожылі ініцыятараў акцыі, але іх, па сутнасці, ужо ніхто не слухаў.

Надвячоркам з дапамогай доўгіх вяровак паднялі Крыж, паставілі і забетанíравалі.

Ды гісторыя з устаноўкай Крыжа на гэтым не скончылася. На другі дзень сяброў БНФ і высокакультурнага, адукаванага чалавека айца Сергія выклікалі на пасяджэнне ў гарвыканкам. Вядома ж, не абышлося без маралі і пагроз, а напрыканцы айцу Сергію прапанавалі праз мясцовую газету папрасіць прабачэння ў выканкама гарадскога Савета. Наменклатуршчыкам шаноўны Сергій адказаў так: "Я магу папрасіць у вас прабачэння, але хто папросіць прабачэння за тысячы разбураных храмаў за гады Савецкай улады?".

Сярод наменклатуршчыкаў-атэістаў не знайшлося таго, хто мог бы публічна папрасіць прабачэння ў праваслаўных вернікаў за здзейсненыя грахі. На тым і разышліся. Святая праўда Крыжа перамагла.

У той жа год, у час асенніх Дзядоў, на ўрачыстае асвячэнне Крыжа сабраліся вернікі і грамадскасць горада. Прагучалі палымяныя прамовы, мы разам памаліліся за Адраджэнне нашага жыцця. Пазней каля Крыжа ладзілі ўгодкі Беларускай Народнай Рэспублікі. Крыж стаў не толькі сімвалам хрысціянства, але і сімвалам дэмакратычнасці, беларускасці. Ён яднаў, клікаў, збіраў.

**Аляксей ЯКІМОВІЧ**



*Устаноўка Крыжа*



*Некаторых з тых, хто падымаў на вяроўках Крыж, ужо няма сярод жывых*



*Мітынг пасля таго, як Крыж устанавілі*

ДЭБЮТ

## Таццяна МАХНАЧ

**Шмат таленавітай моладзі вучыцца ў Слонімскім медыцынскім вучылішчы. Нядаўна на літстаронцы "ГС" дэбютавала з вершамі навучэнка другога курса медвучылішча Марыя Сітко. І вось сёння мы прапануем нашым чытачам паэтычны дэбют трэцякурсніцы Таццяны Махнач.**

**Таццяна прыехала ў Слонім вучыцца на медработніка з суседняй, багатай на літаратурныя таленты, Зэльвы.**

### Маналог старога салдата

Гляджу на дзіўны зоркапад,
Што з часам ўсё святлей.
Я не такі ўжо салдат,
Якімсьці быў раней.

Сівыя скроні, шмат маршчын,
І бачу ўжо не так.
Ад працы цела ўсё баліць,
Бо я не быў лайдак.

Гады бягуць, бяруць сваё,
Знікаюць, быццам дым.
Усё я мог тады рабіць,
Калі быў маладым.

Мне шмат прыйшлося
перажыць:
І голад, і вайну.
Усё прайшоў, застаўся жыць,
Прыдбаў сабе сям'ю.

Я маю жонку, двух сыноў,
І ўнукі нават ёсць.
Але без сілы я жыву,
Бо знікла маладосць.

На фатаграфіі старой,
Што на сцяне вісіць,
Я бачу твар юнацкі свой —
І мне душа баліць.

Старэйшы сын мой аграном,
Малодшы — будаўнік.
Умеюць усё яны рабіць,
Бо бацька — працаўнік.

Удзячны я табе, жыццё,
За тое, што ты ёсць...
Няхай і дзед я ўжо стары,
І знікла маладосць.

### Мроя

Як быццам цудоўная казка,
Прада мною раскрыта цяпер —
Дубраў цудадзейная ласка
І неба блакітны давер.

На крылах буслы асцярожна
Цяпло у краіну нясуць,
Дзе людзі сумленна працуюць
І ў шчасці ды ў згодзе жывуць.

### Вяселле

Ну і вяселле ў Лявонавай хаце!
Рады і бацька, рада і маці,
Што сына свайго ажаніць
паспелі,
Бо гэтага доўга яны хацелі.

Сынок-прыгажун —
гаспадар у хаце.
З бацькамі жыве
ў згодзе ды ў ладзе.
Знайшоў прыгажуню
сабе дзяўчыну,
І вось жэняць бацькі хлапчыну.

Вяселле у вёсцы —
не частая з'ява,
Ды пойдзе на лад і гэтая справа.
Усе сабяруцца, каб падзівіцца,
Наесціся добра
і добра напіцца.

Смяюцца тут хлопцы,
смяюцца дзяўчаты,
Малыя зявакі стаяць каля хаты,
Іграе гармонік, і бубен звініць,
Ды сват гаманлівы
спяшае наліць.

Відаць,
не малыя былі тут запасы:
Ляжаць на сталах
пірагі і каўбасы.
Галоўнае ўсюды — скварка і чарка!
У расход на вяселле
пайшла гаспадарка.

Усім падабаецца
быць на гулянцы:
І песні спяваць,
і кружыцца у танцы.
Для маладых
тут гучаць пажаданні,
Каб жылі век у вялікім каханні.

Раней добра людзі
на вёсках гулялі.
Іншыя песні, чым зараз, спявалі,
З густам, прыгожа яны апраналіся,
Абрады усе ведалі,
у цэрквах вянчаліся.

Чаму ўсё па-іншаму
хутка так стала,
Перанялі мы традыцый так мала?
Чаму не вязе
на вяселлі нас конік,
І ў лад не трапляе
вясковы гармонік?

МІНІ-ФУТБОЛ

# ЗА КУБАК "АЛЬБЯРЦІНА"



Фота Віталя ГІЛЯ

*Бескампрамісная барацьба ў гульні паміж камандамі "Дынама" і зборнай в/ч 33933*

**Па завяршэнні сезона ў першай лізе, дзе выступаў слонімскі "Камунальнік", футбольнае жыццё на Слонімшчыне не заціхла.**

Любіцелі футбола сталі відавочцамі адкрытага турніру па міні-футболу, які прысвечаны 75-годдзю СКБЗ "Альбярцін". Дарэчы, турнір гэты праходзіць у любое надвор'е ў хакейнай каробцы ў парку Альбярціна па выхадных днях.

Удзел у спаборніцтвах узялі пяць камандаў, у складзе якіх такія вядомыя слонімскім аматарам футбола ігракі, як Татарашвілі, Баль, Астапчык, Купрыкаў і іншыя.

Магчыма, з-за гэтага турнір, які плануецца праводзіць штогод, набыў сваіх гледачоў і прыхільнікаў. І арганізатары спаборніцтваў паклапаціліся аб сваіх балельшчыках. Для іх працуе буфет, дзе можна сагрэцца гарачай кавай ці гарбатай.

Такім чынам, слонімскія аматары футбола маюць шанц не развітвацца з любімай гульнёй аж да самага снегу.

**Валерый КАВАЛЕНКА**



Фота Віталя ГІЛЯ

*Дзяніс Куцко перарывае атаку сапернікаў*

## ПЕРШЫ ТУР.

**2 лістапада. 7 градусаў па Цэльсію. Дождж.**

### ДЮСШ "Альбярцін" — СКБЗ "Альбярцін", 4-3

**Суддзя:** Г. Вярбіцкі.
**ДЮСШ "Альбярцін":** Тышко, Д. Снапко, Ганчарук, Аначэнка, Н. Астапчык, Пятроўскі, Нагула, Лівяроўскі.
**СКБЗ "Альбярцін":** Гайдзецкі, Дым, Татарашвілі, Купрыкаў, Баль, А. Гараст, А-др Гараст, Лабовіч, Суша, А. Астапчык.
**Галы:** Д. Снапко – 2; М. Астапчык – 2; Татарашвілі – 1; Баль – 1; Лабовіч – 1.

### Зборная в/ч 33933 — "РОЧС", 12-2

**Суддзя:** Г. Вярбіцкі.
**Зборная в/ч 33933:** Ракуць, Пракаповіч, Куцко, Лапко, Збароўскі, Герасімчык, Стрыгін.
**"РОЧС":** Тумашык, Філіпчык, Пацынка, Сямак, Сайгін, Евушка.
**Галы:** Філіпчык – 2; Збароўскі – 2; Герасімчык – 4; Куцко – 2; Лапко – 3; Стрыгін – 1.

## ДРУГІ ТУР.

**8-9 лістапада. 2 градусы па Цэльсію. Снег.**

### "Дынама" — Зборная в/ч 33933, 3-2

**Суддзі:** Г. Вярбіцкі, А. Гусар.
**"Дынама":** Саліта, Нічыпаровіч, Сівоха, Дземяшэвіч, Злотнікаў, Ярашчук, Сямёнаў, Савань, Аліфер, Ерашэнкаў.
**Зборная в/ч 33933:** Ракуць, Куцко, Лапко, Збароўскі, Герасімчык, Стрыгін, Боцік, Скляр.
**Галы:** Саліта – 1; Злотнікаў – 1; Ярашчук – 1; Скляр – 1; Збароўскі – 1.

### СКБЗ "Альбярцін" — "РОЧС", 4-1

**Суддзі:** Г. Вярбіцкі, А. Гусар.
**СКБЗ "Альбярцін":** Гайдзецкі, Татарашвілі, Купрыкаў, Баль, А. Гараст, А-др Гараст, Лабовіч, Суша, А. Астапчык.
**"РОЧС":** Сыантовіч, Тумашык, Сайгін, Пацынка, Данільчык, Латаш, Лагуцік.
**Галы:** Баль – 1; Татаршвілі – 1; Латаш – 1; А-др Гараст – 1; Купрыкаў – 1.

## ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА КУБКА "АЛЬБЯРЦІНА"

| Месца | Каманда | Гульні | В | Н | П | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Зборная в/ч 33933 | 2 | 1 | 0 | 1 | 14-5 | 3 |
| 2. | СКБЗ "Альбярцін" | 2 | 1 | 0 | 1 | 7-5 | 3 |
| 3. | ДЮСШ "Альбярцін" | 1 | 1 | 0 | 0 | 4-3 | 3 |
| 4. | "Дынама" (РАУС) | 1 | 1 | 0 | 0 | 3-2 | 3 |
| 5. | "РОЧС" | 2 | 0 | 0 | 2 | 3-16 | 0 |

## ЗБОРНАЯ ПАСЛЯ ПЕРШАГА ТУРА

Герасімчык (Зборная в/ч 33933)
М. Астапчык (ДЮСШ "Альбярцін")
Купрыкаў (СКБЗ "Альбярцін")
Д. Снапко (ДЮСШ "Альбярцін")
Тышко (ДЮСШ "Альбярцін")

## ТАБЛІЦА БАМБАРДЗІРАЎ

| | ФУТБАЛІСТ | КАМАНДА | ГАЛЫ |
|---|---|---|---|
| 1. | Герасімчык | Зборная в/ч 33933 | 4 |
| 2. | Лапко | Зборная в/ч 33933 | 3 |
| 3. | Збароўскі | Зборная в/ч 33933 | 3 |
| 4. | Філіпчык | "РОЧС" | 2 |
| 5. | Куцко | Зборная в/ч 33933 | 2 |
| 6. | Снапко | ДЮСШ "Альбярцін" | 2 |
| 7. | М. Астапчык | ДЮСШ "Альбярцін" | 2 |
| 8. | Татарашвілі | СКБЗ "Альбярцін" | 2 |
| 9. | Баль | СКБЗ "Альбярцін" | 2 |
| 10. | Стрыгін | Зборная в/ч 33933 | 1 |
| 11. | Лабовіч | СКБЗ "Альбярцін" | 1 |
| 12. | Саліта | "Дынама" | 1 |
| 13. | Ярашчук | "Дынама" | 1 |
| 14. | Злотнікаў | "Дынама" | 1 |
| 15. | А-др Гараст | СКБЗ "Альбярцін" | 1 |
| 16. | Купрыкаў | СКБЗ "Альбярцін" | 1 |
| 17. | Скляр | Зборная в/ч 33933 | 1 |
| 18. | Латаш | "РОЧС" | 1 |

## ЗБОРНАЯ ПАСЛЯ ДРУГОГА ТУРА

Татарашвілі (СКБЗ "Альбярцін")
Ярашчук ("Дынама")
Скляр (Зборная в/ч 33933)
Саліта ("Дынама")
Сыантовіч ("РОЧС")

# ОПРЕДЕЛЯЕМ ТРОЙКУ ЛУЧШИХ ФУТБОЛИСТОВ

**"ГС" провела опрос с целью определить лучшего игрока "Коммунальника"**

| Респонденты | Места | | |
|---|---|---|---|
| | 1 | 2 | 3 |
| **Мечислав Костюк,** президент ФК "Коммунальник" | Мисюк | Вольский | Евсеенко |
| **Борис Лазарчик,** главный тренер ФК "Коммунальник" | Вольский | – | – |
| **Валентин Городников,** тренер ФК "Коммунальник" | Остапчик | Оначенко | Вольский |
| **Александр Гусар,** тренер ФК "Коммунальник" | Оначенко | Остапчик | Фиранчук |
| **Михаил Гончар,** директор ФК "Коммунальник" | Мисюк | Зюлев | Скляр |
| **Геннадий Бабошкин,** генеральный менеджер ФК "Коммунальник" | Остапчик | Горбач | Вольский |
| **Роман Мамедов,** вице-президент ФК "Коммунальник" | Вольский | Остапчик | Горбач |
| **Сергей Рагозик,** председатель Слонимского районного Совета депутатов | Вольский | Евсеенко | Мисюк |
| **Олег Бердула,** директор Слонимского мясокомбината | Вольский | Оначенко | Курилович |
| **Игорь Царук,** заведующий отделом спорта и туризма | Оначенко | Горбач | Майсейчик |
| **Андрей Заморухов,** директор Слонимского районного центра детско-юношеского туризма | Мисюк | Вольский | Остапчик |
| **Николай Шмелев,** сотрудник отдела спорта и туризма Слонимского райисполкома | Оначенко | Зюлев | Вольский |
| **Сергей Афанасик,** сотрудник редакции "СВ" | Вольский | Оначенко | Остапчик |
| **Сергей Чигрин,** заместитель главного редактора "ГС" | Майсейчик | Оначенко | Остапчик |
| **Николай Скобелев,** командир 11 механизированной бригады | Вольский | Горбач | Курилович |
| **Олег Лактюшин,** директор Слонимского хлебозавода | Оначенко | Горбач | Мисюк |
| **Анатолий Белянин,** директор СПТУ-129 | Курилович | – | – |
| **Константин Зубко,** директор ПО ЖКХ | Курилович | – | – |



**II место**
**Дмитрий Оначенко**
32 очка



**I место**
**Александр Вольский**
39 очков



**III место**
**Николай Остапчик**
19 очков

За каждое первое место игроку начислялось 5 баллов, за второе – 3 балла, за третье – 1 балл.

В результате подсчета всех баллов, полученных футболистами, лучшим игроком "Коммунальника" признан Александр Вольский (в сумме 39 очков). На втором месте – Дмитрий Оначенко (в сумме 32 очка), и на третьем месте расположился Николай Остапчик, набравший 19 очков.

Вслед за тройкой лучших идут Андрей Мисюк (17 очков), Максим Горбач (13 очков), Денис Курилович (12 очков), Игорь Зюлев (6 очков), Валерий Майсейчик (6 очков), Павел Евсеенко (4 очка), Сергей Скляр и Александр Фиранчук (у обоих по 1 очку).

**Валерий КОВАЛЕНКО**

## АДКРЫТЫ КУБАК АЛЬБЯРЦІНА

**Расклад гульняў.**

**3 тур.**
**16 лістапада. 12 гадзін.**
Зборная в/ч 33933 – СКБЗ "Альбярцін".
**17 лістапада. 13 гадзін.**
"Дынама" – ДЮСШ "Альбярцін".

**4 тур.**
**23 лістапада. 12 гадзін.**
"РОЧС" – "Дынама".
**23 лістапада. 13 гадзін.**
ДЮСШ "Альбярцін" – Зборная в/ч 33933.

**5 тур.**
**30 лістапада. 12 гадзін.**
"Дынама" – СКБЗ "Альбярцін".
**30 лістапада. 13 гадзін.**
ДЮСШ "Альбярцін" – "РОЧС".

СТРЫТБОЛ

## НЕ СТАРЭЮЦЬ ВЕТЭРАНЫ...

**9 лістапада ў Рахавіцкай сярэдняй школе Слонімскага раёна прайшлі спаборніцтвы па стрытболу, прысвечаныя 750-годдзю Слоніма і 30-годдзю перамогі зборнай СССР на Алімпіядзе 1972 года ў Мюнхене, пад назвай «Стрытбол для ўсіх».**



Сапраўды, спаборніцтвы аб'ядналі ўсіх – маладых і старых, мужчын і жанчын.

Спачатку школьнікі Навадзевяткавіцкай школы даволі лёгка перамаглі сваіх равеснікаў з вёскі Рахавічы. Сярод дарослых упарта змагалася каманда горада Слоніма на чале з загадчыкам аддзела па фізкультуры, спорту і турызму Слонімскага райвыканкама Ігарам Царуком. У фінале ж, які стаў упрыгожваннем спаборніцтваў, сустрэліся каманды з Рахавіч і Навадзевяткавіч. Удала пачала і лідзіравала на працягу першай паловы матчу каманда з Навадзевяткавіч. Урэшце з мінімальнай перавагай (16:14) перамогу святкавала каманда з Рахавіч. Вельмі эмацыянальна праходзілі спаборніцтвы і сярод сем'яў (па 2 чал.). Тут першае месца заняла сям'я Журовічаў (Леанід і сын Юрый), другое – сям'я Блізнюкоў (Дзмітрый і сын Саша), трэцяе – Аляксандр Хмыз з братам Яўгенам Яршом. А ў выніку перамагла дружба.

Усяго ў спаборніцтвах прынялі ўдзел 14 каманд.

Пасля, за кубкам чаю, былі цёплыя ўспаміны пра поспехі баскетбалістаў Слонімскага раёна 70-80-х гадоў, пра поспехі зборнай СССР. Гаварылі пра знакаміты пас нашага земляка, ігрока зборнай СССР па баскетболу Івана Едэшкі, у фінальным матчы з амерыканцамі на алімпіядзе ў 1972 годзе. Успомнілі і яго трэнера Анатоля Іванавіча Марцінкевіча. Настальгія?!. Так! Але не толькі. Памяць, традыцыя – гэта і падмурак для развіцця баскетбола ў раёне. Нездарма Ігар Царук заўважыў, што такі турнір мусіць стаць штогадовым, больш масавым, і паабяцаў і надалей падтрымку з боку спортаддзела райвыканкама.

Варта адзначыць, што спаборніцтвы «Стрытбол для ўсіх» адбыліся, дзякуючы ініцыятыве Слонімскага клуба грамадзянскіх ініцыятыў, сябрам якога з'яўляецца Рахавіцкая сярэдняя школа, і падтрымцы аддзела па фізкультуры, спорту і турызму Слонімскага райвыканкама. Арганізатары шчыра ўдзячны за дапамогу фундатарам: прафсаюзнаму камітэту калгаса імя Суворава Слонімскага раёна (старшыня прафкама Павел Жукоўскі) і Праграме Альянс Партнёрства Каунтэрпарт (г.Мінск).

**Алесь ЦІШКЕВІЧ**

МАСТЫ

## ВЫСТУПІЛІ ПАСПЯХОВА

**У Гомелі прайшла пятая рэспубліканская спартакіяда ваенна-спартыўнага прыкладнога комплекса "Абаронцы Айчыны".**

Каманда Гродзенскай вобласці была створана з юнакоў дапрызыўнога і прызыўнога ўзростаў Мастоўскага і Гродзенскага раёнаў. Яе рыхтавалі два трэнеры – Анатоль Місюк (Масты) і Анатоль Чулкоў (Гродна).

У першы дзень спаборніцтваў змаганне ішло ў двух відах: бег на 100 метраў і кіданне гранаты. У кіданні гранаты нашы землякі занялі другое каманднае месца. А па агульным выніку выйшлі на другое месца, прапусціўшы наперад гаспадароў. У другі дзень змаганне ішло па стральбе, плаванню і падцягванню на перакладзіне. У стральбе гродзенцам не было роўных. У асабістым заліку яны занялі тры першыя месцы. У плаванні і падцягванні яны былі другімі, хаця ў падцягванні Яўген Рачкоўскі і Уладзімір Каценкоў паказалі выдатныя вынікі – 28 і 27 разоў адпаведна. Каманда стала замацавалася на другім месцы, і бег на 3 000 метраў у апошні дзень фактычна ніяк не паўплываў на размеркаванне камандных месцаў. Гродзенцы атрымалі сярэбраныя медалі і каштоўныя падарункі. На першым месцы гаспадары, трэці радок заняла каманда з Магілёва.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

АНОНС

## У СПАРТЫЎНАЙ ШКОЛЫ – ЮБІЛЕЙ

У гэтым годзе Слонімскай ДЮСШ №1 спаўняецца 50 гадоў.

Мерапрыемствы, прысвечаныя юбілею школы, распачнуцца ўрачыстым сходам, які пройдзе ў пятніцу, 15 лістапада, у Слонімскім раённым доме культуры, у 16 гадзін.

На наступны дзень, 16 лістапада, адбудзецца матч ветэранаў, выпускнікоў ДЮСШ №1, па міні-футболу. Пачатак гульні ў суботу ў 12 гадзін у спартзале ДЮСШ №1.

Запрашаем усіх на святочныя мерапрыемствы!

